Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.

№ 10 | Нядзеля, 3 Жніўня 1924 г. | Год I.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць два разы ў тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 1 злоты 20 гр.
За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Людвісарская вул. дом № 4. (Wilno, Ludwisarska 4). Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак за радок пэтыту: на 1 стар. — 15 гр.; у тэксьце — 10 гр.; на апош. стар. — 5 гр.

## Цыркуляршчына.

З таго часу, як усе мы, тутэйшія жыхары, выйшлі з маскоускае няволі, пасьпелі мы з большага запомніць пра той агідны лад, які панавау на нашай зямлі, дзе жыцьцё прабягала не паводлуг тых ці іншых законау, а паводлуг таго, якімі былі усемагутныя «усмотрѣнія» царскіх сатрапау.

Здавалася-б, што гэткі стан рэчау зьнік саусім разам з тэю крыніцаю адміністратарскай самаволі, якая звалася самауладнаю расейскаю монархіяй.

Нажаль, жыцьцё сягоньняшніх дзён, калі мы зьяуляемся грамадзянамі Польскае Рэспублікі, а ня чыімі-нібудзь падданымі, жыцьцё цяперашняе дае яшчэ одгукі беспаваротна памёршае мінуушчыны.

Ня больш, як тры з лішкаю месяцы назад, а ласьне 22 красавіка 1924 г. за № 23/239 Віленская Дырэкцыя Дзяржауных Польскіх Чугунак разаслала у падуладныя сабе органы цыркуляр датычна прыманьня на чугунку службовага пэрсоналу.

Цыркуляр гэты на аснове загаду Прэзэса Дырэкцыі падае да ведама і *точнага выпауненьня*, што служачых няпольскае нацыянальнасьці (праваслаунае веры), якія працуюць у тутэйшым краі, належыць пакінуць надалей у дасюлешніх месцах працы аж да выхаду іх шляхам натуральнага адплыву. Аднак *рашуча забараняецца* вышэйназваным цыркулярам *прымаць праваслауных* на службу (тут у нашым краі) як шляхам новых кандыдатау, таксама і шляхам перамяшчэньня іх з іншых месцау службы.

Цыркуляр агавараваецца, што *дапускацца будуць толькі саусім выняткoвыя выпадкі, на якія кожны раз трэба адтрымліваць дазвол на грунце індывідуальных прапазыцыяу, падаваемых з далучэньнем абаснованых матывау і асабістых актау прапануемага кандыдата.*

Што гэта, як ня самае чыстае даунейшае «усмотрѣніе»?

Прауда, у цыркуляры гаворыцца, што ён не датычыць фізычных працаунікоу на чугунцы — дарожных, варстатных і пры складах апалу.

Над загадам гэткім нельга ня спыніцца, нельга не задумацца над тым, куды ён вядзе, нельга не разважыць самай сутнасьці яго, а таксама й законнасьці.

Па сутнасьці справы можна было-б паставіць перад сабою гэткае, напрыклад, пытаньне: ці Віленская Чугуначная Дырэкцыя мае устаноуленыя даныя, што кожны падуладны ёй чугуначны вураднік *праваслаунае веры* зьяуляецца абсолютна нікуды нягодным?

Калі-б гэта было так, дык тады апрауданьне сваё цыркуляр меу-бы хаця-бы з пункту гледжаньня інтарэсу службы.

Але-ж, пастаноука падобнага пытаньня адпадае сама сабою вельмі проста, бо выдаушая цыркуляр Дырэкцыя згаджаецца сама трымаць на службе праваслауных служачых чугуначнікау аж да часу іхняга *натуральнага адплыву*, але ня прымаць новых.

Матывы, пабудзіушыя Віленскую Чугуначную Дырэкцыю выдаць падобны загад у цэлым маглі быць толькі палітычныя; мэта цыркуляру ясная. *Ідзе яна па лініі абмежаваньня правоу праваслаунага чугуначнага вурадніцтва.* А гэтая катэгорыя людзей нікім ня можа быць іншым у нашым краі, як беларусамі у сваёй абсолютнай большасьці, калі не цалком.

Пытаньне, хто на гэты раз раздувае пачуцьцё нацыянальнае розьніцы сярод пэунае часьці працоунага жыхарства краю?

Пераходзячы да законнасьці вышэйсказанага цыркуляру, прыпамінаем сабе, што **арт. 3** разьдзелу II-га Констытуцыі Польскае Рэспублікі, прынятай Установчым Соймам 17-га сакавіка 1921-га году канчаецца гэткімі словамі:

**„Распараджэньні улады, з якіх выцякаюць правы альбо абавязкі грамадзян, маюць абавязковую моц толькі тады, калі яны былі выданы на аснове закону і са ссылкай на яго“.**

А у артыкуле 111 разьдзелу V Констытуцыі Рэспублікі ясна сказана:

**„Усім грамадзянам забясьпечваецца свабода суменьня й веры. Ніводзін грамадзянін ня можа быць з прычыны яго веры й рэлігійных перакана극ньняу, абмяжованы у правох, якія належаць іншым грамадзянам“.**

Прыведзеных выпісак з Дзяржаунае Констытуцыі аж надта даволі, але варта памятаць, што арт. 38, разьдз. II-га Констытуцыі вельмі ясна кажа:

**„Ніяні закон ня можа стаяць у супярэчнасьці з гэтай Констытуцыяй, альбо нарушаць яе пастановы“.**

Пераглядзіушы усе 126 артыкулау Дзяжаунае Констытуцыі, мы не маглі знайсьці ніводнага месца у ёй, якое-б служыць магло грунтам дзеля абмежаваньня права грамадзян праваслаунае веры служыць на Польскіх Дзяржауных Чугунках наагул, ці у межах Віленскае Чугуначнае Дырэкцыі дэтальна.

І сьмешна было-б шукаць чагонібудзь падобнага!

Мы-ж, дзякуй Богу, у Польскай Рэспубліцы і мы-ж, ці праваслауныя ці каталікі, ці яшчэ якія іншыя па веры, — грамадзяне.

Каму на карысьць *беззаконны* цыркуляр Віленскае Чугуначнае Дырэкцыі за 22 красавіка 1924 г. № 23/239?

Хто вінаваты у выданьні гэтага цыркуляра і чаму ня чуваць, каб за гэта ён быу папрошаны да адказнасьці пракуратураю?

Дзеля дружнага сужыцьця нацыянальнасьцяу краю патрэбны рашучы нагляд законнае улады над дзейнасьцю тых з дзяржауных вураднікау, якія тэмы для сваіх цыркулярау бяруць з архіунае цяпер практыкі царскіх часоу.

Ганебны у нашым тутэйшым жыцьці цыркуляр Віленскае Чугуначнае Дырэкцыі павінен быць умораны адразу.

Тварэц гэтага цыркуляра павінен панясьці законную адпавядальнасьць, каб яго іншым колегам падобнага характару сярод мясцовых вураднікау быу даны добры прыклад памятаць, што часы абмяжоуваньня грамадзян у правох толькі за тое, што яны маюць тую ці іншую веру, хоць і ня вельмі дауно, але аканчальна мінулі.

Ніякая цыркуляршчына, не абапёртая на законе, ня можа мець месца у дзяржауных установах Рэспублікі.

У 1924 годзе час-такі навучыцца шанаваць Констытуцыю Польскае Рэспублікі, пара ужо саусім запомніць дзікую эпоху адміністрацыйных «усмотрѣній» тых, хто сканау і назад да нас ня вернецца.

---

## Беларускія соцыялісты-рэвалюцыянэры процi бальшавікоу.

Намі адтрыманы гэткія весткі аб пазыцыі беларускіх соцыялістаў-рэвалюцыянэраў, якія знаходзяцца ў эміграцыі:

Галоўная група партыі Беларускіх Соцыялістаў-Рэвалюцыянэраў, што знаходзіцца ў Чэхаславакіі на чале са усімі трома праўдзівымі павадырамі партыі — Грыбам, Мамонькай і Бадуновай, — ня прылучылася да дэкларацыі зьезду „быўшых“ сяброў Беларускае Партыі Соцыялістаў-Рэвалюцыянэраў у Менску, які зьезд пастанавіў зьліквідаваць партыю і прылучыцца да камуністаў.

Павадыры беларускіх эс-эраў пачалі нанова рэестрацыю сваіх сіл з цэнтрам у Чэхаславакіі, а 8 сьнежня 1923 году ў абвешчаньні заяўляюць, што камітэт загранічнай групы партыі беларускіх эс-эраў зьліквідованы, дзеля таго, што ковенская арганізацыя на чале з Карабачом, Пракулевічам і Галавінскім, арганізаваўшая гэтак званую „Беларускую Сялянскую Раду“ і браўшая удзел у 1922 годзе ў выбарах да Літоўскага Сойму, зблёкаваўшыся з чорнасоценным саюзам „русских граждан Литвы“, пастанаўленьнем бюра Цэнтральнага Камітэту выключана з патыі Беларускіх эс-эраў.

У выпушчаным Беларускай Партыяй Соц.-Рэвалюцыянэраў закліку да працоўных масаў падняволенай Беларусі, галоўны ўдар скіроўваецца ў бок бальшавікоў. У адным з пунктаў, паміж іншым, гаворыцца:

„Уся палітыка расейскіх камуністаў, нічога супольнага ня маючы ні з соцыялізмам ні з камунізмам, зьяўляецца палітыкай маскоўскае велікадзяржаўнасьці, палітыкай гвалту і ашуканства.

... Камуністычная партыя ня толькі ня вывела паднявольныя нацыі, ў тым ліку й Беларускую на шлях вольнага самастойнага будаўніцтва, але наадварот крывёй і ашуканствам прымусіла вызваляўшыяся нацыі ўвайсьці ў саюз С. С. Р., у гэты новы будынак, але ў сутнасьці ўсё ў тую самую „турму народаў“ усходняе Эўропы.

Што датычыць перайшоўшага ў камуністы соц.-рэвалюцыянэра А. Карабача, дык цэнтр. бюро партыі ў Чэхаславакіі сьцьвярджае, што ён самазванна разам з А. Казячым, (ня быўшым ніколі ў партыі эс-эраў) назваў сябе „дэлегатам“ ад Заходняй Беларусі на эс-эраўскім зьезьдзе у Менску, дзеля таго, што даўно ўжо выключаны быў з партыі за ковенскую палітыку.

Датычна выступленьняў за граніцаю рэшты быўшага ўраду Ластоўскага, эс-эры апавяшчаюць, што з траўня 1922 г. ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі перастаў фактычна і юрыдычна істнаваць, а дзеля гэтага ўсялякія далейшыя выступленьні кагонібудзь ад імя гэтага ўраду Белар. Парт. Соц. Рэвал. лічыць самазванствам і авантураю.

---

*Газэту прачытай і перадай суседу!*

*Той, хто умее чытаць, ніколі не паляну йся прачытаць няпісьменнаму!*

каменнага вугля хапіла-б на 6000 гадоў. Але, калі ўзяць цыфру сапраўднага дабываньня, дык магутнасьць месцазнаходжаньня вугля трэба панізіць на 25%, таму што значная часьць вугля марнуецца пры дабываньні, перавозцы і г. д. Апрача таго, шмат якія залежы вугля знаходзяцца ў сфэры высокіх тэмпэратураў (вышэй за 70 градусаў) і недаступны дзеля распрацоўкі. Іншыя зноў ня досіць магутныя і распрацоўка іх нявыгадна — з эканамічнага пункту гледжаньня. Прымаючы ўсё гэта пад увагу, прыходзіцца паменшыць цыфру працягу пэрыяду, на які людзям хопіць вугля, да 1500 гадоў.

Аднак-жа й гэтая цыфра няправільная. Рэч у тым, што ужываньне вугля ўзрастае штогоду ў паграджальнай прогрэсіі. За апошнія 10 гадоў людзі спалілі больш вугля, чымся за ўсе папярэднія эпохі. Наўрад ці памылковым будзе сьцьвярдзіць, што запасы каменнага вугля вычарпаюцца ўжо праз некалькі сотняў гадоў.

Яшчэ горшая справа з нэфтаю. Пры цяперашнім ужываньні яе хопіць толькі на 60 гадоў, аднак рост ужываньня нэфты яшчэ большы, як вугля. У першую дэкаду (10 гадоў) нашага сталецьця нэфты ўжывалася ў сярэднім 33 мільёны тоннаў штогоду, ў другую дэкаду гэтая цыфра ўзрасла да 69 мільёнаў тоннаў і дасягнула ў 1922 годзе 100 мільёнаў тоннаў. У адной Амэрыцы, якая ўжывае нэфты ў два разы болей, як рэшта ўсяго сьвету, гадавое павялічэньне складае каля 25%. Значыцца ўжо пад канец 20-га сталецьця, калі не будзе выкрыта новых крыніцаў нэфты, запасы яе вычарпаюцца і ўсе самаходы, мотоцыклі, аэропляны, ўсе караблі й параходы з нафтавымі машынамі, ўсе Дызэль-моторы стануць нікому непатрэбнымі рэчамі.

Гэтыя сумныя вывады даўно ўжо змусілі людзей задумацца над новымі крыніцамі энэргіі. Блізка што ня выкарыстаны гэтак званы „белы вугаль“ — энэргія вадападаў. Калі ўжываць усю вадзяную энэргію вадападаў, рэк ды вазёраў, дык Азія можа даць 236 мільёнаў конскіх сілаў, Афрыка й Паўночная Амэрыка — па 160, Паўднёвая Амэрыка — 94, Эўропа — 65 і Аўстралія — 30 мільёнаў конскіх сілаў. З паасобных краёў на першым месцы стаяць Злучаныя Штаты — 100 мільёнаў конскіх сілаў, далей ідуць: Канада — 26, Нарвэгія — 13, Францыя — 7, Швайцарыя — 6,7 і т. д. Аднак-жа, калі ўжыць навет усю вадзяную энэргію зямное кулі цалкам, дык і тады цяперашнія патрэбы будуць пакрыты ўсяго толькі на 60% (крыху больш як напалову).

Вялікія магчымасьці абяцае скарыстаньне энэргіі ветру. Пры належным яе выкарыстоўваньні, яна магла-б замяніць і вугаль і нэфту і ваду. Дасюль яшчэ людзі не навучыліся, як належыць, лавіць энэргію ветру.

Спробы скарыстаньня энэргіі марскіх прыліваў, а таксама энэргіі сонца, знаходзяцца толькі ў пэрыядзе досьледаў і ня маюць практычнага значэньня. Аднак-жа, бязумоўна, калі чалавецтву ўдасца калі-нібудзь „злавіць сонца“, дык усе проблемы руху і апалу будуць вырашаны раз назаўсёды.

**Бамбардыроўка месяца.**

Прафэсар Робэрт Годдар, кіраўнік Фізычнага Унівэрсытэту ў Нью-Ёрку і аўтор проекту пушчэньня снараду (гарматнага) на месяц, прыняўся за экспэрымэнт, які лічыць аканчальным, над выкарыстаньнем сьвежа вынайдзенага жыдкага выбуховага матар'ялу.

Матар'ял гэны прадстаўляе тую карысьць, што не награвае снараду.

Праф. сьцьвярджае, што замер бамбардыроўкі месяца, зусім не зьяўляецца чымсьці асаблівым, бяручы пад увагу тое, што адлегласьць паміж месяцам і зямлёю толькі ў восемдзесят разоў большая за тую, якая дзеліць абодва берагі Атлянтыцкага акіяну.

# У С.С.Р.Р.

**Расстрэлы ня сьціхаюць.**

„Міжнародны маскоўскі саюз прафэсыянальных саюзаў з прычыны „белага тэрору“, стасаванага ў Эстоніі, Латвіі, Літве, Фінляндыі і Польшчы“ зьвярнуўся да пролетарыяту ўсяго сьвету, пералічаючы прасьледаваньні камуністаў гэтых краёў і заахвочваючы да трываньня ў цяжкай барацьбе.

Якога значаньня гэта адозва, лёгка ацаніць чытаючы ў рускай прэсе, што:

У Пермі расстралялі дырэктара мясцовай электроўні інжынера Міхайлоўскага за „эканамічную контррэвалюцыю“.

У Ульянаўску (Сымбірск) расстрэлены па прыгавору суда вучыцель гімназіі Андрэевіч за „тайнае спрыяньне контр-рэвалюцыі“.

У Крэменчугу расстрэлены за процізаконныя праступленьні судовы сьледавацель Огаркоў.

У Петраградзе арыштована многа гандляроў за тое, што не зьмянілі на вывесках слова „петраградзкі“ на „ленінградзкі“.

У Архангельскі концэнтрацыйны лягер прыехала „разгрузачная камісія“, заданьнем каторай ёсьць перагляд асабістага складу арыштантаў, частку іх адправяць у Нарымскі край, каб гэткім чынам стварыць месца для чужаземцаў — арыштантаў, прыяжджаючых з Масквы новымі партыямі.

У Палтаўскай губэрні апошнім часам Г. П. У. ўчыніла цэлы рад арыштаў сярод праваслаўнага духавенства і моладзі. У некаторых паветах арыштованы ўсе да аднаго сябры тамтэйшых царкоўных камітэтаў.

У Кіеве, ў гуртках студэнцкай моладзі нібыто раскрыта „контр-рэвалюцыйная сувязь“ з студэнцкімі арганізацыямі гэткага самага тыпу, якія знаходзяцца ў Маскве і Петраградзе.

# ПАЛІТЫЧНАЯ ХРОНІКА.

**У Польшчы.**

— На паседжаньні конституцыйнае камісіі Сойму 29-га ліпня г. г. аднагалосна пастаноўлена запрапанаваць Сойму адкінуць папраўку Сэнату да законаў аб роднай мове ў судох і адміністрацыі датычна сроку ўвядзеньня ў жыцьцё гэтых законаў. Як вядома, Сэнат прапанаваў адсрочыць правядзеньне языковых законаў у жыцьцё да 1 красавіка 1925 г.

— Ваенны міністар гэнэрал Сікорскі выйшаў з Уяздоўскага шпіталю, дзе ён лячыўся, і прыступіў да спаўненьня службы.

— 31-га мінулага ліпня адбыліся выбары прэзэса пасольскага клюбу „**Wyzwolenie**“. Выбраны п. Валерон, адтрымаўшы 37 галасоў, тады як Рудзінскі адтрымаў 7 галасоў. Некалькі картачак падана белых.

— 31 га мінулага ліпня памёр у Станіславове пасол Сойму адвакат д-р Рубін Іонас, належаўшы да клюбу „**Koło Żydowskie**“.

— На 7 жніўня склікаецца соймавая камісія загранічных справаў дзеля выбару спэцыяльнае падкамісіі, якая мае быць у заўсёдным контакце з Мін. Загран. Справаў.

— 1-га жніўня на паседжаньні Палітычнага Камітэту Рады Міністраў абгаварвалася справа бясьпечнасьці ў усходніх ваяводзтвах. Пастаноўлена запэўніць бясьпечнасьць насяленьня ад бандыцкіх нападаў.

# ШЛЯХОЦКІЯ ГОСЬЦІ.

У Залыччы кіпіць жыцьцё. Нешта і старыя і малыя шляхта рупна бегаюць, круцяцца, клапацяцца, некуды зьбіраюцца.

Куды-ж гэта? — ў госьці да Чуб-Цяпілаў.

Тыдзень таму назад тыя прыслалі праз парабка паперу, ў якой пісалася:

„Вельцэ паважаныя і чцігоднэ паньство Лычкоўскія, просімы абавязкова быць у нас, значыцца, у Чуб-Цяпілаў на „Усіх Сьвятых“ першым днём у гасьцёх. Шмат хто бэндзе сабраўшысень, бэндзе выпіўка і квашаніна, а і кілбасы, а і капуста з сьмятанай, а іпарасёнак у масьле, а і сырнікі ў тлустасьці... На астатак падамы або бліны аўсяныя з гусіным шмальцам, або кісель аўсяны з маслам, або яблыкі з... млекам.

Спадзяёмся, цо бэндзеце напоўненыя усім усякім, а і здаволеныя бардзо вшысткім адедзеце ад нас, паноў Чуб-Цяпілаў, да свайго Залычча.

З вялікім паважаньнем чакаць будзема паноў Лычкоўскія“.

Гэткае пасланьне адтрымалі ад „старога шляхоцкага роду“, дык ня дзіва, што ў паноў Лычкоўскіх кіпела ў будынку, як у катле.

Сама пані Лычкоўская, высокая, прыгожая, поўная жанчына паганяла нізкага, слабога характару, кульгавага пана.

Сын іхні Мамэрт гадоў 24, дзэртыр бальшавіцкі, паганяў сястру Уршулю, прыземістую, круглую маладзіцу гадоў 25, крычачы штомінутна:

— Уршуля, дзе штаны! Уршуля дзе шлейкі? Уршуля дзе падзела панчохі ды калёшы!

Апрыч гэтага ў Уршулі быў муж Стаська, худы, спрытны гарадзкі чалавек, (на чугунцы службу нейкую меў). Той таксама прыкрыўся Уршульцы, просячы хустачкі, грошай у дарогу, бо гэта было ў ейных руках.

Але пад вечар-ткі ўсё сьціхла. Пані сама з Мамэртам села на калёсы, якімі буднім днём гной на поле вазілі. Пані Уршуля з сваім Стаськам — на каламажцы, што да касьцёла кожнае сьвята езьдзяць... і паехалі...

Сьціхла ў Залыччы... Дзе-ня-дзе толькі курыца засакоча, зьнёсшы яйко, або пятух запяе... Сам пан Лычкоўскі соў ля вакна ў „салёне“, ўзлажыў на нос акуляры, узяў кніжку і ўзнесіў малітвы да Бога за сябе і за паехаўшых у госьці.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Туп... туп... тупа-туп... бяжыць конік з калёсамі...

Туп-туп... за ім другі з каламажкаю...

Паволі то зблізкаюцца, то ўцякаюць ад іх бярозы прыдарожныя; мінаюць і астаўляюць за сабой поле за полем, лужыну за лужынай, мост за мостам.

Качаюцца і ўздрыгваюць ад няроўнасьці калдобістае дарогі павозкі, качаюцца, ўздрыгваюць і хіляюцца ў бакі дрэмлючыя смачна седакі...

Туп-туп... туп-туп... без канца адбіваецца з гасьцінца...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Гаў-гаў! забрахалі блізка сабакі... Прачхнуліся седакі. Мамэрт затрымаў каня, зьлез і нешта пачаў шукаць на дарозе—пугу страціў едучы; гэта кожны раз яму здаралася, як ехаў у госьці ці ў Дзісну.

Пані-матка была разумнай жанчынай; з усьмешкай пазірала на сына і казала:

— Можа вёрст пяць назад страціў... няварта шукаць, паедзем як-нібудзь!

Мамэрт адламаў алешніну і не абламаўшы гальля сеў... ехалі далей. Праз хвіліну яны зьвярнулі на панадворак паноў Чуб-Цяпілаў.

На спатканьне выйшаў сам гаспадар, малады і сьмешны дзяцюк гадоў трыццацёх, з вялікім падбародкам і скрыўленаю губай...

Коні з павозкамі ўпарадкавалі, рэчы якія, перакуску, сяньнікі і сядзеньне, а і клумкі паны Лычкоўскія пазабіралі з сабой у хату...

Алешніну-паганялку Мамэрт старанна схаваў ля плоту.

У хаце было поўна пань, паноў, дзяўчат і дзяцюкоў; разьмясьціўшыся былі ўсе групамі па кутох: старыкі сабе, старухі сабе, дзяцюкі й дзяўчаты асобна ад сябе. Ціха было, толькі шэпт і шорхат данёсься да вушэй паноў Лычкоўскіх, як тыя ўвайшлі з усімі „вандзэлкамі“ ў хату.

— Пахвалёны Езус Хрыстус! Загаманілі новапрыбыўшыя; — ім адказалі зараз-жа з усіх куткоў:

— Навекі векуф!

Гаспадар і гаспадыня кінуліся памагаць разьдзецца...

З вялікім трудом адвярцелі пані-матку з розных шнуровак, хусткаў, коўдраў... пасьля зьнялі пальто ватовае і „на мяху“, валёнкі і тады ўжо яе вялі і знаёмілі з сядзеўшымі і пасадзілі на пачэсным месцы. Мамэрт, Уршуля і Стаська таксама мала адсталі, — ўсьлед пераznаёміліся з усімі і сталі ці селі, дзе каму спадабалася.

Гаспадар стаў пасярод хаты і голасна паведаў:

— Вельцэ і дроге госьцікі! Болей ніхто ўжо ня прыедзе да нас, будзем брацца за дзела! Сталы паставімы на сярэдзіне хаты... Падъемы спочонтку, а вгэды бэндзем забаўляцца!

Падняліся ўсе хлопцы, зашумелі, загручэлі і зарагаталі табурэтамі, зэдлікамі і сталамі; з кухні, з шафаў і скрынкаў гаспадыні (тры сястры Чуб-Цяпілішкі) насілі і насілі на сталы ўсялякія прысмакі... Урэшце ўсе былі прошаны садзіцца — пачалося частаваньне.

А. В.

*(Канец у чар. нум.)*

